

# Навіны Беларускага Народнага Фронту
«Адраджэньне»

Выдаецца са сьнежня 1988. — 1—25 сакавіка 1993 г. — № 3(38) — Кошт 5 рублёў

# Дзень Волі

Семдзесят пяць гадоў таму наш народ заявіў пра сваё права займаць пачэсны пасад між народамі й дзяржавамі сьвету. Абраны Першым Усебеларускім кангрэсам Выканаўчы камітэт абвясьціў 9 сакавіка 1918 году пра ўтварэньне Беларускае Народнае Рэспублікі. 25 сакавіка 1918 году Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана незалежнаю.

Змаганьне пакаленьняў беларусаў дало плён. Над Менскам лунае наш адвечны бел-чырвона-белы штандар, а дзяржаўным гербам краіны зноў стала Пагоня. Да нас спакваля вяртаецца родная мова.

Але радасьць азмрочвае трывога. Сілы мінуўшчыны перайшлі ў наступ. Камуністычныя ўлады давялі эканоміку да руіны, рынкавых рэформаў няма, дзяржаўную маёмасьць раскрадае намэнклятура. Заключаюцца пагадненьні, якія замацоўваюць залежнасьць нашае краіны ад усходняга суседа. Пачалася прапагандысцкая кампанія за дзяржаўнасьць на Беларусі расейскае



# Да 75-годзьдзя абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі

мовы. Улады зганьбілі сябе забаронаю патрабаванага амаль паўмільёнам выбаршчыкаў рэфэрэндуму. Урэшце, незаконна адноўленая КПСС – партыя, якая нясе адказ за пакуты нашага народу, якая збройна нішчыла БНР і тых людзей, якія прагнулі волі. Дзень незалежнасьці не зацьверджаны як дзяржаўнае сьвята Рэспублікі Беларусі. На шляху да спаўненьня ідэалаў 25 Сакавіка яшчэ давядзецца пераадольваць ці мала перашкодаў, а найперш – зацяты супраціў камуністычных ды антынезалежніцкіх сілаў, што пануюць на Беларусі. Але перамога дэмакратыі непазьбежная, як прыход вясны.

Дзень Волі набліжаецца!

Прымеце ж, дарагія суайчыньнікі, нашыя шчырыя сьвяточныя зычаньні посьпехаў у Вашых добрых справах і спаўненьня запаветных мараў.

Заклікаем вас успомніць вясну 1918 году – вясну нашага народу – ды ўрачыста, прылюдна ці толькі ў сваёй сям'і, сярод сяброў сказаць добрае слова пра тых ахвярных людзей, якія не пашкадавалі жыцьця дзеля Бацькаўшчыны, яе народу.

Клічам вас прыйсьці 21 сакавіка аб 11 гадзіне на пляц Незалежнасьці і разам зь сябрамі Беларускага Народнага Фронту, Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў, дэмакратычных партыяў узяць удзел ва ўрачыстым шэсьці і мітынгу каля помніка Янку Купалу.

Жыве Беларусь!

## Зварот Сойму БНФ "Адраджэньне"

Дарагія грамадзяне Беларусі, суродзічы!

75 гадоў таму, 25 сакавіка 1918 году, змаганьне пакаленьняў беларусаў за адраджэньне нашае дзяржаўнасьці прывяло да перамогі. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ў сваёй III Устаўной Грамаце абвясьціла сьвету пра незалежнасьць Беларусі, пра яе вызваленьне з акупацыйных путаў, пра волю беларусаў да будаваньня ўласнага дэмакратычнага, міралюбнага, заможнага гаспадарства.

Гісторыя незалежнае БНР была нядоўгаю й трагічнаю. Свабоду Беларусі растапталі акупанты з усходу й захаду, але ніхто ўжо ня мог задушыць памкненьня беларусаў да незалежнасьці. Бальшавікі ў процівагу БНР змушаныя былі пайсьці на абвешчаньне БССР – калёніі савецкай Імпэрыі пад выглядам нацыянальнае дзяржавы, дзе беларускі народ нішчылі фізычна й духоўна. Але існаваньне БССР, насуперак жаданьню бальшавікоў, нагадвала пра дзяржаўную традыцыю беларусаў. Гістарычная справядлівасьць і дзяржаўная пераемнасьць пачала аднаўляцца ў жніўні 1991 г., калі была зноў дэклараваная незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны.

75-гадовы шлях ад III Устаўной Граматы Рады БНР да прызнанае большасьцяй краінаў сьвету Рэспублікі Беларусі – шлях ахвярнага змаганьня й пакуты, але ж і шлях прасьвятленьня, шлях вяртаньня соцень тысяч і мільёнаў суайчыньнікаў да нацыянальнае сьведамасьці, шлях адраджэньня дэмакратычнага сьветагляду й традыцыяў на Беларусі.

Беларусы даволі ўжо нацярпеліся, гібеючы ў марнай працы на чужыя імпэрыі ды на падманлівую камуністычную ідэю. Чарговы раз падмануць наш народ ня ўдасца нікому. Дарма спадзяюцца сілы мінуўшчыны на рэванш: звароту назад ня будзе. Будучая Беларусь – незалежная й дэмакратычная, шанаваная ўсімі народамі сьвету, культурная й працавітая эўрапейская краіна.

Толькі адбудова ўласнае незалежнае дзяржавы яднае народ, дазваляе яму перажыць нават самыя цяжкія часы, ведаючы, што цярпеньні ня пойдуць намарна, бо адбудова ўласнага дому дзеля сябе, дзеля дзяцей і ўнукаў – гэта сьвятая і радасная праца. Праца, якую асьвятляе ідэал 25 Сакавіка. Хай жа водбліск гэтага дня натхняе нас і надалей!

Жыве Беларусь!

13 сакавіка 1993 г.
г. Менск

## ЗМАГАРАМ ЗА БНР

Ня вер бальшавікам ніколі,
Ад іх не дачакацца Долі.
У іх для нас заўсёды – краты,
Яны з нас робяць вінаватых,
Бо мы на роднае зямлі
Душы сваёй не прадалі
Ні маскалям, ні хітрым ляхам,
І не глядзім на іх са страхам.
Ня вер бальшавікам нідзе!
А хто паверыць – прападзе
Адразу, нібы мыш рудая.
Што кажа бальшавік, ён – знае...
Яму ня трэба нашых Сьвят,
Ён, бальшавік – амаль вар'ят,
І, ён цябе не пашкадуе,
І ён сваіх не пашкадуе,
Ён не душу – ён зло ратуе.
Яму ня трэба БНР,
І ён задушыць, нібы зьвер,
Усіх, хто хоча вольнай Волі.
Ня вер бальшавікам ніколі!

---

Пагоня над зямлёй ляціць,
І сам Пан Бог на нас глядзіць.

Віктар Шніп

# Паведамленьне пра сакавіцкі Сойм БНФ

13 сакавіка адбылося чарговае паседжаньне Сойму БНФ. З паведамленьнем пра стаўленьне да зьезду беларусаў сьвету, які хоча правесьці згуртаваньне "Бацькаўшчына", выступіў сябра Сойму, сябра Выканкаму БСДГ Анатоль Гурыновіч. Ён адзначыў, што невядомыя мэта і парадак дня зьезду, ніводная з палітычных арганізацыяў дэмакратычнага кірунку не атрымала афіцыйнага запрашэньня ўдзельнічаць у працы аргкамітэту. Фактычна гэты зьезд – спроба ўбіць клін паміж дэмакратычнымі арганізацыямі беларусаў у сьвеце. Аднак, разумеючы, што сустрэча беларусаў сьвету павінна адбыцца, Выканкам Грамады прапануе правесьці III Ўсебеларускую палітычную канфэрэнцыю. Пасьля вострай і працяглай дыскусіі Сойм прыняў рашэньне падтрымаць ініцыятыву Грамады і вылучыць прадстаўнікоў у аргкамітэт канфэрэнцыі.

З спавешчаньнем аб прынцыпах і дэвізах адраджэнскага народнага руху выступіў Старшыня БНФ Зянон Пазьняк. Нагадаўшы гісторыю ўзьнікненьня БНФ, як і іншых народных франтоў у рэспубліках былога СССР, ён адзначыў, што мы і зараз ня можам адмаўляцца ад формы шырокага народнага руху, бо па-ранейшаму існуе таталітарная сістэма ўлады. БНФ можна разглядаць як сумяшчэньне ідэялёгіі народнае партыі з арганізацыйнымі структурамі шырокага народнага руху. Асноўныя прынцыпы, якія мы павінны адлюстраваць у сваёй шырокай праграме – свабода, незалежнасьць, адраджэньне, справядлівасьць, салідарнасьць. Аналізуючы ўзаемасувязь гэтых прынцыпаў, З.Пазьняк спыніўся на пытаньні суадносінаў правоў чалавека і суверэнітэту. Мы не павінны паўтарыць памылкі, зробленыя да нас, і аддаць прыярытэт якому-небудзь з гэтых прынцыпаў. Варта прызнаць парытэт правоў чалавека і народу. (Тэкст выступу З.Пазьняка – у наступным нумары "Навінаў").

Сойм зацьвердзіў парадак вылучэньня дэлегатаў на зьезд: 1 дэлегат ад 10 сяброў і прыхільнікаў БНФ, членаў партыяў і груповак – калектыўных сяброў БНФ; 1 дэлегат ад 5 – удзельнікаў камісіяў Сойму; па 3 дэлегаты ад Менскай гарадзкой і абласных радаў.

Падрыхтавала Вера Чуйко

# Заява Сойму БНФ пра III Ўсебеларускую Палітычную Канфэрэнцыю

Сойм БНФ "Адраджэньне" ацэньвае палітычную сытуацыю ў краіне як санкцыянаваны ўладамі наступ камуністычнае антынезалежніцкае рэакцыі. Сойм пацьвярджае немагчымасьць удзелу БНФ у арганізацыі ды правядзеньні ў гэтых умовах зьезду беларусаў сьвету, бо такі зьезд, паколькі за яго арганізацыю бяруцца пракамуністычныя ўладныя структуры, будзе выкарыстаны імі дзеля сваіх інтарэсаў.

Сойм БНФ падтрымлівае прапанову Выканкаму БСДГ наладзіць улетку 1993 г. III Ўсебеларускую Палітычную Канфэрэнцыю, у якой узялі б удзел прадстаўнікі беларускіх дэмакратычных сілаў Бацькаўшчыны і замежжа. У гісторыі дэмакратычнага руху Беларусі Палітычныя Канфэрэнцыі скліканіся ў нялёгкія, паваротныя для нашага народу часіны. Гэткі ж час прысьпеў і цяпер.

Сойм прапануе вынесьці на абмеркаваньне III Ўсебеларускае Палітычнае Канфэрэнцыі галоўнае пытаньне: лёс незалежнасьці Беларусі й дэмакратычных пераўтварэньняў у нашай краіне. Разам зь іншымі беларускімі дэмакратычнымі сіламі Беларускі Народны Фронт удзельнічае ў падрыхтоўцы й правядзеньні Канфэрэнцыі.

г. Менск, 13 сакавіка 1993 г.

## З радаў Фронту

# МАГІЛЕЎ

У вапошні зімовы дзень Рада Магілеўскай арганізацыі БНФ "Адраджэньне" склікала канфэрэнцыю. У гарадзкім Доме культуры сабраліся 83 дэлегаты, госьці.

Пасьля малебну на добрую працу, праведзенага праваслаўным сьвятаром, са спавешчаньнем пра работу арганізацыі выступіў старшыня яе рады – Анатоль Фёдараў. Перш-наперш ён прааналізаваў адстаўку мэра Магілева Сяргея Габрусева. У свой час Беларускі Народны Фронт падтрымаў Габрусева, хаця ён ніколі ня быў лідэрам дэмакратычнага руху, які ў Магілеве быў яшчэ вельмі слабы. С.Габрусеў тады кіраваў адным з вытворчых участкаў камбіната "Хімвалакно" і, паводле яго заяваў, разумеў неабходнасьць дэмакратычных пераўтварэньняў у краіне. Але пасьля абраньня старшынёй Магілеўскага гарвыканкаму С.Габрусеў перастаў супрацоўнічаць з Народным Фронтам, з дэмакратычнымі дэпутатамі. Ён не падтрымаў заяву БНФ пра падзеі ў Вільні, адмовіўся падпісаць заяву супраць ГКЧП, выступіў супраць страйкавага руху, супраць правядзеньня рэфэрэндуму. Выявіліся разыходжаньні і ў іншых выпадках. І тады Магілеўская гарадзкая арганізацыя БНФ выказала С.Габрусеву палітычны недавер.

Але мэр Магілева не зьвяртаў увагі на крытыку, а дзейнічаў так, як дзейнічае ўсюды партнамэнклятура. А таму неўзабаве выявілася, што мэр памяняў кватэру, у прэстыжным раёне Магілева пачаў будаваць сабе катэдж – выбухнуў скандал, які сродкі інфармацыі падалі як злоўжываньні мэра-дэмакрата, лідара дэмакратычнага руху Магілева. Выкарыстаньне службовага становішча – звычайная зьява ў карумпаваных Саветах, але газэты і радыё асабліва вылучалі слова – дэмакратычны. Намэнклятура спадзявалася, што выпадак з С.Габрусевым вельмі зашкодзіць дэмакратычнаму руху ў Магілеве, а то й спыніць яго. Але параза С.Габрусева стала перамогаю перш за ўсё Магілеўскай арганізацыі БНФ. Гэта – маральная перамога. Народны Фронт, усе дэмакратычныя арганізацыі засьведчылі сваю сумленнасьць, не захацелі дзеля выгады (напачатку на мэра–дэмакрата аглядаліся кіраўнікі аблвыканкаму, і апазыцыя пачувалася мацней) здраджваць сваім ідэалам. А таму і прагаласавалі супраць Габрусева 32 дэпутаты дэмклюбу.

Ці ня можа паўтарыцца такі выпадак у будучыні, – пыталі Анатоля Фёдарава пазьней. На гэты конт лепш за ўсё адказвае беларуская прыказка "За аднаго бітага дзесяць нябітых даюць". Старшыня рады лічыць, што памылка дапаможа ім быць больш сталымі. На той час не было магчымасьці выбіраць, але за гады людзі здолелі праявіць сябе, паказалі свае станоўчыя ці адмоўныя рысы.

Спадар Фёдараў распавёў прысутным пра канцэпцыю палітычнай дзейнасьці Магілеўскай гарадзкой арганізацыі БНФ. Ён перакананы, што трэба разьвіваць і ўдасканальваць арганізацыйныя структуры. "Мы распачалі працу, – сказаў старшыня, каб усюды, у кожным раёне, у кожнай вёсцы былі нашыя арганізацыі. Ужо сёньня ў 19 раёнах з 20-ці ёсьць структуры БНФ... З таго часу, як пачалі ўзьнікаць страйкавыя камітэты, мы падтрымліваем стварэньне свабодных прафсаюзаў, усе іхныя акцыі і сёньня маем у горадзе Магілеве адну з найбольш моцных арганізацыяў. Рабочыя камітэты павінны быць на кожным прадпрыемстве..." (Сёньня ў Магілеве дзейнічае каля трох дзясяткаў арганізацыяў, рухаў і партыяў дэмакратычнага кірунку. Прадстаўнікі шмат якіх выступілі на канфэрэнцыі.)

Рада Магілеўскай гарадзкой арганізацыі БНФ вырашыла перавесьці дзейнасьць на прафэсійную аснову. Ствараецца апарат, які будзе весьці арганізацыйную і агітацыйную работу, прапаганду. Магілеўскія лідары БНФ перакананыя, што толькі арганізацыя прафэсійных палітыкаў зможа павялічваць колькасьць прыхільнікаў, якія ня проста чымсьці не задаволены, але могуць што-небудзь прапанаваць, больш канструктыўна працаваць у час выбарчай кампаніі.

Магілеўскія сябры ствараюць свой інфармацыйна-выдавецкі цэнтар. Газэта "Ратуша" ўжо дасягнула прафэсійнага ўзроўню. Як дадатак да яе выходзяць газэты шасьці раёнаў, а ў Хоцімску, прыкладам, выдаецца асобная газэта дэмакратычнага кірунку. Такія выданьні, перакананы сп. Фёдараў, будуць ў кожным раёне. Пададзеныя дакумэнты на рэгістрацыю сваёй радыёстанцыі, вядуцца перамовы, каб выкарыстаць кабельнае тэлебачаньне. А дзеля забесьпячэньня праграмы дзейнасьці сродкамі Магілеўская арганізацыя БНФ наладжвае сувязь з камэрцыйнымі структурамі. Яна падтрымлівае ўсе грамадзкія арганізацыі, што ставяць за мэту нацыянальнае адраджэньне, творчыя калектывы. Для школаў купляюць кніжкі, дапамагаюць настаўнікам беларускамоўных клясаў. У Магілеве створана філія Беларускага гуманітарна-адукацыйнага культурнага цэнтру й ліцэю пры ім, выклад-чыкі тут – сябры БНФ.

Наладжана супрацоўніцтва з царквою, ды асабліва з касьцёлам, дзе на беларускай мове вядзецца багаслужба, працуе нядзельная школка. З дапамогай касьцёлу пасылалі дзяцей на аздараўленьне ў Польшчу. У горадзе ствараецца ўніяцкая грамада.

Больш падрабязна пра газэту "Ратуша" распавёў яе рэдактар Алесь Сердзюкоў. З рэдакцыяй стала супрацоўнічаюць сябры ўсіх партыяў, таварыстваў, суполак Магілева. Ва ўсіх раёнах вобласьці ёсьць няштатныя карэспандэнты. Наладжана сувязь зь беларускімі суполкамі ў іншых гарадох Беларусі, у Маскве, Санкт-Пецярбурзе, Вільні.

Алесь Сердзюкоў выказаў сваё меркаваньне пра адстаўку Габрусева: "Мы не стварылі альтэрнатывы, мы паставілі на аднаго чалавека – і атрымалі такі вынік. Наогул, усякі чалавек дэмакратычных поглядаў, калі ён трапляе ў карумпаваныя органы, вымушаны жыць паводле іх законаў... Гэтую савецкую ўладу рэфармаваць нельга – яна ня мае пэрспэктывы... Мы павінны разьвіваць мясцовае самакіраваньне".

Амаль усе, хто выступаў на канфэрэнцыі, гаварылі пра Габрусева. Яго і хвалілі, і крытыкавалі, і шкадавалі. Так, шкадавалі яго як чалавека, які ня вытрымаў і здрадзіў сабе самому, спачувалі яму, таму што Габрусеў застаўся адзін. Дэпутацкі дэмакратычны клюб ня мог яго падтрымаць: дзеяньні Габрусева не адпавядалі іх прынцыпам. Партнамэнклятура яго баялася, а да таго ж ёй хацелася дыскрэдытаваць дэмакратычны рух Магілева, лідарам якога ўсё ж бачылі Габрусева. І хоць былы мэр фактычна спрыяў партнамэнклятуры і нават, як паказалі выступоўцы, напярэдадні адстаўкі спрабаваў заручыцца яе падтрымкай, ім ахвяравалі...

Не пачуў я на канфэрэнцыі, ды і пасьля яе, калі сардэчныя жанчыны з Камітэту "Дзеці Чарнобыля" частавалі нас вельмі смачнымі пірагамі й гарбатай, ні ад кога злосных словаў на Габрусева. І таму я перакананы, што ў Магілеўскай гарадзкой арганізацыі Беларускага Народнага Фронту пераважаюць людзі, якім баліць ня толькі за праведнікаў, але й за кожнага чалавека.

У той дзень абралі дэлегатаў на абласную ўстаноўчую канфэрэнцыю і дэлегатаў на III зьезд БНФ "Адраджэньне". Старшыняваць у Магілеўскай гарадзкой арганізацыі. БНФ зноў даручылі Анатолю Фёдараву.

Гасьцямі канфэрэнцыі былі і выступілі перад дэлегатамі сябры Сойму БНФ Юры Хадыка ды Сяргей Мурог.

Пётра Станкевіч

# ДАРАГІЧЫН

Чарговы раз пераконваюся: калі ёсьць нейкія адметнасьці ў палешукоў, дык гэта не этнічныя адрознасьці, не пачутыя мной аднаго разу разважаньні пра адметныя ўзоры на падэшвах іхных ног, а грунтоўнасьць і самавітасьць у характары, у падыходзе да кожнае справы. Горад Дарагічын – лішняе таму пацьверджаньне. Палітычных аб'яднаньняў тут усяго два, але рэальныя. Летась зарэгістравала сваю дзейнасьць Дарагічынскае аддзяленьне БНФ, а нядаўна, у лістападзе, адбыўся сход па аднаўленьні раённай партарганізацыі камуністаў. Менавіта па аднаўленьні, а не стварэньні новай, – падкрэсьлівалася ў прэсе, бо нават і на чале яе застаўся той жа першы сакратар – Барыс Асаўцоў. Праўда, партыйная пасада цяпер ня вызваленая, яе даводзіцца спалучаць з працаю намесьнікам старшыні райсельгасхарчу, дый камуністаў у раёне паменела – іх цяпер 70. Дарагічын – адзін зь нямногіх гарадоў, дзе былая партнамэнклятура не сыйшла ў цень, а ўзначаліла новыя камуністычныя структуры. Перакананьні тут мяняюць нячаста.

Але бывае, што і так здараецца. Горад Дарагічын вядомы ў найноўшай гісторыі Беларусі тым, што адсюль родам лідар грамадзка-культурнага аб'яднаньня "Палісьсе" Мікола Шаляговіч. У адзін зь ягоных прыездаў да сваякоў зь ім, тады яшчэ сябрам БНФ, навязалі лучнасьць актывісты дэмакратычнага руху Дарагічынскага раёну. Паўстаўшы ў 1988 годзе, гэтая суполка даўно шукала кантактаў зь менскімі й берасьцейскімі структурамі Фронту, і Мікола Шаляговіч адыграў ва ўяўленьні дарагічынскіх дэмакратаў ролю "чалавека з цэнтру". Так сталася, што тутэйшая Рада БНФ мела некаторы час выгляд Дарагічынскае гуртыны ГКА "Палісьсе". Аднак пікетаваньне, прыкладам, сэсіі Пінскага гарсавету пад лёзунгамі: "Палешукі! Ня будзьце паддосьледнымі трусікамі экспэрымэнту пад назвай "белорусизация!", іншыя выказваньні й дэмаршы лідара "Палісься", якія дазволілі трактаваць ягоную дзейнасьць як раскольніцкую ў дэмакратычным руху, выклікалі незадаволенасьць у сяброў Дарагічынскае, Яноўскае і Пінскае гуртынаў. Сябры Дарагічынскае гуртыны на чале са старшынёй Кастусём Мысьліўцом абвясьцілі пра выйсьце з аб'яднаньня. Праўда, паводле сьцьверджаньня намесьніка старшыні ўправы ГКА "Палісьсе" Аляксандра Трушко, Дарагічынская гуртына 29 красавіка 1991 году рашэньнем управы была расфармаваная за дзейнасьць, супярэчную Статуту аб'яднаньня, а менавіта (цытую) "за дзейнасьць ў стылі і ў інтарэсах БНФ". Як бы гэта ні было на справе, але пра тое, што шляхі лідара "Палісься" і Дарагічынскае суполкі не супадаюць – сьведчыць далейшы хаўрус Міколы Шаляговіча з камуністамі, ў той час як колішняя Дарагічынская гуртына атрымала рэгістрацыйнае пасьведчаньне БНФ.

Тутэйшае аддзяленьне Фронту мае больш як 180 чалавек, прычым ня толькі ў Дарагічыне, але і ў раёне: вёсках і мястэчках Аляксеевічы, Заставе, Антопаль і іншых. Наяўнасьць гэткае масавае сілы ў раёне стварае тут асаблівы палітычны мікраклімат. Так, на выбарах у Вярхоўны Савет Беларусі, перамогшы намэнклятурных кандыдатаў, прайшоў дырэктар школы Аляксей Ніканчук, які дэкляраваў прыхільнасьць да прынцыпаў БНФ. Цяпер, праўда, ён культывуе імідж незалежнага дэпутата, аднак тутэйшай Радзе Фронту дапамагаць час ад часу мусіць. Нейк стыхійна, нават без асаблівых намаганьняў БНФ, сталася так, што ў гарсавеце больш за палову дэпутатаў склалі дэмакраты. А год таму на новага старшыню гарвыканкаму быў абраны 29-гадовы Іван Ярашэвіч, які хаця й меў гарт працы ў камсамоле, школаю гэтаю не сапсаваны. 9 студзеня гарвыканкам даў сваю залу паседжаньняў дзеля сходу ўпаўнаважаных прадстаўнікоў Дарагічынскага аддзяленьня БНФ, выступіў на сходзе і мэр. Падрыхтоўка да збору ішла грунтоўна – гэта была свайго роду раённая канфэрэнцыя. Вясковыя суполкі паводле пэўных квотаў вылучылі прадстаўнікоў – 51 чалавека. Парадак дня таксама быў прапанаваны важкі. Мясцовыя сябры Фронту, самавітыя палешукі, адчуваючы непазьбежнасьць пераняцьця ўлады ў раёне, загадзя, паволі ўваходзяць у курс справаў. Сход упаўнаважаных, не раўнуючы як сэсія райсавету, абмеркаваў: ролю афіцыйных прафсаюзаў на цяперашнім этапе, пытаньне пра зямлю, пра жыльлёвае будаўніцтва ў раёне, пра мову і культуру.

Гутарка аб прафсаюзах зайшла невыпадкова. Менавіта цяпер, калі на прадпрыемствах распачалася кампанія справаздачна-выбарчых сходаў і заключэньня новых калектыўных дамоваў, Дарагічынскі БНФ вырашыў пашырыць уплыў на прафкамы і, па магчымасьці, паўсюдна правесьці туды сваіх лідараў. Праграма-максымум – падпарадкаваньне Фронту прафсаюзных структураў і паступовы вывад іх з падначаленьня адміністрацыі – мае зьдзяйсьніцца на выключна законных падставах; мэханізм такіх дзеяньняў растлумачыў на сходзе юрысконсульт Міхаіл Бажко. З інфармацыяй пра жыльлёвае будаўніцтва выступіў старшыня гарвыканкаму. Прынялі пастановы наконт прыватызацыі жыльля, бясплатнай раздачы зямлі. Выказаліся і за тое, каб дзяржаўнаю моваю лічыць беларускую, а мясцовы палескі дыялект – захоўваць і шанаваць. Ня маючы пакуль што заканадаўчых правоў, прапановы перадалі свайму дэпутату Аляксею Ніканчуку, які паабяцаў на сэсіі Вярхоўнага Савету галасаваць за пункты, адпаведныя пастанове Дарагічынскага сходу. Так паволі, разважна Дарагічынскі БНФ вучыцца кіраваць, рыхтуючы сябе да выпрабаваньня ўладаю.

Наш Кар.

# «Абудзілася Беларусь да

## Дакумэнты

### ПРИКАЗ РУССКИМ ВОЙСКАМ РУМЫНСКОГО ФРОНТА

9 января 1918 года, № 1332

Объявляю об учреждении Белорусской Войсковой Комиссии по организации белорусских воинских частей на румынском фронте.

В состав означенной комиссии вошли:

1) Председатель Генерал-Майор Пожарский,

2) Секретарь Поручик 117 пехотного Ярославского полка Ленчиони,

3) Члены: Подполковник 4 Морского полка Чунихин,

4) Штабс-Капитан 481 пехотного Мешевского полка Манцевич,

5) Штабс-Ротмистр 11 Изюмского Гусарского полка Пожарский,

6) Поручик 117 пехот. Ярославского полка Горянский,

7) Подпоручик 117 пех. Ярославского полка Горянский,

8) Представитель фронтовой Белорусской Рады по назначению последней.

Вышеупомянутая комиссия помещается при Штабе Румфронта, куда всем воинским чинам и учреждениям в подлежащих случаях и надлежит обращаться. Телеграфный адрес комиссии: Штарум, Белорусская комиссия.

Подписал: помощник Августейшего Главнокомандующего армиями Румынского фронта Генерал-от-Инфантерии Щербачев (по управлению Генерал-Квартирмейстера).

### ПРИКАЗ РУССКИМ ВОЙСКАМ РУМЫНСКОГО ФРОНТА

14 января 1918 г., № 1362

Согласно постановлению Комитета Национально-Областных комиссаров при Штабе Румынского фронта приказываю 6-й Таурогенский пограничный конный полк белоруссизовать, для чего, распоряжением Штаба 6-й армии, собрать все находящиеся в отделе эскадроны вместе и расположить в деревнях Болгарийки и Табаки.

Указанному полку с сего числа именоваться «Первым Гусарским Белорусским национальным полком».

Основание: отношение Председателя Комитета Национально-Областных Комиссаров при Штабе Румынского Фронта за № 298 и отношение Председателя Белорусской Войсковой Комиссии по организации белорусских воинских частей на Румфронте за № 1.

Подписал: Помощник Августейшего Главнокомандующего армиями Румынского фронта Генерал-от-Инфантерии Щербачев (по управлению Дежурного Генерала).

### ПРИКАЗ РУССКИМ ВОЙСКАМ РУМЫНСКОГО ФРОНТА

21 января 1918 г., № 1399

Согласно постановления Комитета Национально-Областных Комиссаров при Штабе Румынского фронта, приказываю:

1) 4-й армейский корпус в составе 30 и 40 пехотных дивизий с их артиллерией, Штаб корпуса и все приданные корпусу вспомогательные части и учреждения, 43 п. дивизию с её артиллерией и приданными ей учреждениями и 26 авто-броневое отделение – белоруссизовать.

2) Всех офицеров и солдат белоруссов распоряжением Штабов армий передать соответственно: из 4-й и 6-й армий в 4 армейский корпус, а из 8 и 9 армий – в 43 п. дивизию.

Всех же чинов не белоруссов, состоящих в настоящее время в указанных частях, в случае их желания, выделить и передать распоряжением штабов 6 и 9 армий в другие не национализируемые части.

Основание: отношение Председателя Комитета Национально-Областных Комиссаров за №№ 281 и 280.

Подписал: Помощник Августейшего Главнокомадующего армиями Румынского фронта, Генерал-от-Инфантерии Щербачев.

### ПРИКАЗ РУССКИМ ВОЙСКАМ РУМЫНСКОГО ФРОНТА

23 января 1918 г., № 1407

Приказываю 357-ю Витебскую и 401-ю Минскую дружины – белоруссизовать.

Основание: отношение Комиссара по Белорусским делам Румынского фронта с. г. за № 113.

Подписал: Помощник Августейшего Главнокомандующего армиями Румынского фронта, Генерал-от-Инфантерии Щербачев (по управлению Дежурного Генерала).

1918 г., января 30 (февраля 12).

## Да 75–годзьдзя абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі

Шлях нашага народу да незалежнасьці вёў праз тры – 1794, 1831 ды 1863–1864 гадоў – паўстаньні. Ды хоць удзельнікаў апошняга пакаралі найсуровей, праз паўстагодзьдзя "абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця".

у беларускіх гарадох, у войску (а на франты Першае сусьветнае вайны паслалі амаль палову дарослых беларусаў), сярод уцекачоў, высланых у Расею, зьявіліся палітычныя, культурна-асьветніцкія ды ўцякацкія арганізацыі. Прыкладам, тады было

Беларускае Вайсковае Цэнтральнае Рады пераняць уладу на тэрыторыі этнаграфічнае Беларусі.

27 кастрычніка 1917 году ад імя Вялікае Беларускае Рады (ВБР), Беларускае Вайсковае Цэнтральнае Рады, Беларускае



*Сябры Вялікае Беларускае Рады і Беларускае Вайсковае Цэнтральнае Рады. Менск, кастрычнік 1917 г. Надпіс "Няхай жыве вольная Беларусь" на харугве вышыла Зоська Верас. За копію здымку дзякуем Цэнтральнаму дзяржаўнаму архіву-музэю літаратуры і мастацтва Беларусі.*

Першаю палітычнаю суполкай, якая мела за мэту абарону нацыянальных правоў нашага народу, была Беларуская рэвалюцыйная грамада. Яе стварылі Вацлаў Іваноўскі, браты Іван ды Антон Луцкевічы. Гэтая партыя ўзьнікла ў 1902 г. і на першым сваім зьезьдзе ў



*Тамаш Грыб*

1903 г. пачала называцца Беларускаю сацыялістычнаю грамадою (БСГ). Яе ідэі прапагандавалі газэты "Наша Доля" і "Наша Ніва".

Пасьля лютаўскае рэвалюцыі 1917 году БСГ актывізавала сваё дзеяньні. На той час

заснаванае і актыўна дзейнічала Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. У Віцебску ўзьнік Беларускі народны саюз, у Гомлі – Саюз беларускай дэмакратыі. У сакавіку 1917 году на першым зьезьдзе нацыянальных арганізацыяў (150 удзельнікаў) быў абраны Беларускі Нацыянальны Камітэт (БНК) з 18 чалавек. Яму даручалася ў кантакце з часовым урадам арганізаваць "Беларускі краёвы ўрад".

На зьезьдзе прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў і партыяў 8 ліпеня 1917 году ў Менску была створана Цэнтральная Рада беларускіх арганізацыяў, якая прыняла свой статут. У яе выканаўчым камітэце прадстаўнікі БСГ мелі кіраўнічую ролю. Улетку таго ж году ў Вільні ўзьнікла беларуская арганізацыя "Сувязь незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі". Яна выступала 'супраць канфэдэрацыі Беларусі зь Літвою і супраць аўтаноміі Беларусі ў складзе Расеі.

У кастрычніку 1917 году ў Менску сабраўся зьезд жаўнераў–беларусаў трох арміяў Заходняга фронту, на якім была абраная Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада (БВЦР). Яна мела за мэту стварэньне беларускага войска. Адбыліся таксама зьезды вайскоўцаў франтоў: Паўночнага – у Віцебску, Румынскага – у Адэсе, Паўднёва–Заходняга – у Кіеве. Прадстаўнікі зьездаў увайшлі ў склад БВЦР.

З 14 па 26 кастрычніка ў Менску адбыліся III зьезд БСГ і II сэсія Цэнтральнае Рады беларускіх арганізацыяў. На аб'яднанай нарадзе іхныя прадстаўнікі вырашылі стварыць свой найвышэйшы орган – Вялікую Беларускую Раду (ВБР). Як пісаў Язэп Варонка, яна павінна 'была з дапамогаю

Сацыялістычнае Грамады ды іншых арганізацыяў была абвешчана "Грамата да беларускага народу", у якой выказвалася адмоўнае стаўленьне да бальшавіцкага перавароту, а беларусаў перад небясьпекай анархіі заклікалі аб'яднацца ды ўтрымаць лад і згоду ў краіне.

Напярэдадні на аб'яднанай нарадзе магілеўскіх беларускіх нацыянальных арганізацыяў рэдактар "Могилёвского вестника" былы інспэктар народных вучэльняў Міхал Кахановіч, старшыня Магілеўскае Беларускае Рады, сказаў: "Бальшавіцкае паўстаньне – гэта злачынства, бо пасьля яго лёгка можа вярнуцца былы рэжым".

Газэты "Вольная Беларусь", "Беларуская рада", "Бюлетэнь Беларускай Рады 10-й арміі" пачалі прапаганду супраць бальшавікоў, тлумачылі народу сутнасьць савецкай улады, заклікалі браць прыклад з Украіны, Сібіры, данскіх казакоў. Адначасова прапагандавалася ідэя скліканьня Ўстаноўчага сходу, каб захаваць правы й вольнасьці, заваяваныя ў лютым. ВБР пачала актыўныя захады, каб стварыць беларускае войска. (2 сьнежня 1917 г. Аблвыкамзах – Выканаўчы камітэт Савету рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласьці і фронту, які ўстанаўляў савецкую ўладу на тэрыторыі Беларусі, вырашыў не дапусьціць фармаваньня беларускіх частак.)

Але беларускія нацыянальныя групоўкі не адмовіліся ад змаганьня супраць дыктатуры бальшавікоў, за дэмакратыю, за самавызначэньне. Пачалася падрыхтоўка да скліканьня Ўсебеларускага зьезду.

# Дзяржаўнага жыцьця»

Ініцыятарамі выступілі Вялікая Беларуская Рада ў Менску і Беларускі абласны камітэт пры Ўсерасейскім Савеце сялянскіх дэпутатаў (Белабласткам) у Петраградзе.

Выканаўчы камітэт ВБР, Беларуская Цэнтральная Вайсковая Рада і Беларускі выканаўчы камітэт Заходняга фронту ў звароце "Да ўсяго беларускага народу" прапанавалі склікаць 5 сьнежня 1917 году ў Менску зьезд прадстаўнікоў усяго беларускага народу, каб утварыць органы ўлады ў цэнтры й на месцах. У бюро скліканьня зьезду ўвайшлі і прадстаўнікі Белабласткаму, старшыня якога, аграном родам з Рэчыцкага павету Е.Канчар сьцьвярджаў, што ў стварэньні Савету Народных Камісараў Заходняй вобласьці "ні беларускія часткі, ні беларускія Саветы сялянскіх і рабочых дэпутатаў ня ўдзельнічалі. Аблвыкамзах не прадстаўляе беларускіх працоўных і дзейнасьць яго не адпавядала мясцовым патрэбам, а ўлада яго разумелася абмежаванаю Заходнім фронтам".

Белабласткам у Петраградзе зьвярнуўся праз Наркамнац у Савет Народных Камісараў РСФСР з просьбай матэрыяльна падтрымаць Усебеларускі зьезд. СНК РСФСР задаволіў гэтую просьбу і праз Наркамнац выдзеліў грошы на правядзеньне зьезду.

8 сьнежня 1917 году на Першы Ўсебеларускі кангрэс у Менск зьехаліся прадстаўнікі Вялікае Беларускае Рады, Беларускае Цэнтральнае Вайсковае Рады, беларускіх выканаўчых камітэтаў усіх франтоў, Беларускае выканаўчае камісіі ў Маскве, дэпутаты Ўстаноўчага сходу (Учредительного собрания) ад Беларусі, Беларускае Сацыялістычнае Грамады, дэлегаты іншых партыяў, беларусы — сябры Выканаўчага камітэту Ўсерасейскага Савету сялянскіх дэпутатаў, прадстаўнікі губэранскіх, павятовых і валасных земстваў, беларускіх уцякацкіх ды іншых таварыстваў і суполак. З 1872-х дэлегатаў 1167 мелі права вырашальнага голасу. 22 адсоткі дэлегатаў прадстаўлялі нацыянальную інтэлігенцыю: настаўнікаў, юрыстаў, журналістаў, вучоных, а таксама афіцэраў; 8 адсоткаў – вышэйшае афіцэрства, буйных землеўладальнікаў, сьвятароў, а рэшта — сяляне, жаўнеры, рабочыя.

Зьезд прыняў рэзалюцыю, у якой права вырашаць лёс беларускага народу надавалася будучаму Ўстаноўчаму сойму. А пакуль на кароткі час улада перадавалася Ўсебеларускай Радзе сялянскіх, жаўнерскіх і рабочых дэпутатаў.

Як вядома, прэзыдыюм Першага Ўсебеларускага Кангрэсу быў арыштаваны бальшавікамі ад імя СНК Заходняй вобласьці і фронту. Але большасьць удзельнікаў зьезду не падпарадкаваліся гвалту менскіх бальшавікоў. Ужо раніцай 18 сьнежня яны сабраліся ў дэпо Лібава–Роменскай чыгункі і працягвалі паседжаньне, на якім вырашылі не прызнаваць улады гвалтаўнікоў ды заклікаць увесь беларускі народ змагацца з гэтай уладай.

21 сьнежня на патаемным сходзе Рада зьезду вылучыла з свайго складу Выканаўчы камітэт Першага Усебеларускага Кангрэсу і абавязала яго прыняць на сябе функцыі выканаўчай улады на Беларусі, калі створыцца рэальная магчымасьць існаваньня такой улады. Старшынёй Выканаўчага камітэту абралі Язэпа Варонку, які, хаця яго двойчы арыштоўвалі, кіраваў дзейнасьцю камітэту.

Уся ўвага была скіравана на стварэньне самастойнае дзяржавы. Дзеля гэтага камітэт пачаў актыўна супрацоўнічаць з Украінскаю Радаю. На Румынскім фронце было створана беларускае войска.

18 лютага 1918 году нямецкае войска рушыла ў наступ на ўсім фронце. СНК Заходняй вобласьці і фронту 19 лютага пачаў эвакуацыю. У гэты ж дзень Выканаўчы камітэт утварыў Народны Сакратарыят Беларусі. 21 лютага ён зьвярнуўся да беларускага народу зь "Першаю Ўстаўною Граматаю".

Калі ў Менск увайшло нямецкае войска, Язэп Варонка быў прыняты прадстаўніком камандаваньня. Але немцы не прызналі беларускую ўладу – так яны абавязваліся паводле ўмоваў Берасьцейскага міру. Сакратарыят выгналі з занятага памяшканьня, а беларускі сьцяг зьнялі.

Але нацыянальныя дзеячы і ня думалі скарыцца. Яны аднавілі Беларускую Вайсковую Цэнтральную Раду, а пасьля зь меншавікамі, эсэрамі, бундаўцамі вырашылі абвясьціць Беларусь Народнаю Рэспублікаю. 9 сакавіка 1918 году Выканаўчы камітэт, якога ў свой час Кангрэс абавязаў узяць на сябе функцыі ўлады, зьвяртаецца да народу Беларусі з другою Ўстаўною Граматаю. Уся ўлада перадавалася Радзе Ўсебеларускага Кангрэсу, якая 18 сакавіка была ператорана ў Раду Беларускае Народнае Рэспублікі.

Увечары 24 сакавіка пачалося паседжаньне Рады БНР. Абмяркоўвалася прапанова Антона Луцкевіча абвясьціць незалежнасьць БНР. Раніцай 25 сакавіка 1918 году была прынятая Трэйцяя Ўстаўная Грамата: Беларусь абвяшчалася незалежнаю дзяржаваю.

П. С.



*Першы Ўрад БНР. Сядзяць: злева направа — А.Бурбіс, І.Серада, Я. Варонка, В.Захарка. Стаяць: Злева направа — А.Смоліч, П.Крэчэўскі, К.Езавітаў, А.Аўсянік, Л.Заяц.*

*Дакумэнты*

## ПЕРШАЯ ЎСТАЎНАЯ ГРАМАТА

**Да народаў Беларусі**

Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаазначэньне, а нацыянальныя меншасьці на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію. Правы нацыі павінны знайсьці сваё зьдзейсьненьне шляхам скліканьня на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму. Але і да скліканьня Ўстаноўчага Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належыць тым народам, якія на ёй жывуць. Выканаўчы К-т Рады першага Ўсебеларускага Зьезду, папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзяйсьняючы мэты Зьезду, **абвяшчае сябе часовай уладай на Беларусі** для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Ўстаноўчага Сойму на аснове агульнага, простага, роўнага, тайнага і прапарцыянальнага выбарчага права для ўсякага дарослага, ня лічучыся з нацыянальнасьцю, вызьнаньнем і родам. Часовую народную ўладу краю, якая ставіць сабе мэтай абарону і зацьверджаньне заваяваньняў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьняваць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі, які ад гэтага дня пачаў выконваць свае абавязкі. Пэрсанальны склад Сакратарыяту будзе апублікаваны пасьля.

Дадзена ў Менску-Беларускім
21 (8) лютага 1918 г.
Выканаўчы Камітэт Рады
Ўсебеларускага Зьезду.

## ДРУГАЯ ЎСТАЎНАЯ ГРАМАТА

**Да народаў Беларусі**

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабляе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловаю вякоў няволі зноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор - Усебеларускі Зьезд 15-17 сьнежня 1917 году, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і бароначы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1. – **Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай.**
2. – Асноўныя законы Беларускае Народнае Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.
3. – Да часу, пакуль зьбярэцца Устаноўчы Сойм Беларусі, законадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага Зьезду, дапоўненай прастаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.
4. – Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ.
5. – У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.
6. – У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.
7. – У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускае Народнае Рэспублікі.
8. – У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўстанаўляецца найбольш 8-гадзінавы рабочы дзень.

Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускае Народнае Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцьця ў Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсы ўсіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьць працоўнага люду. А так сама дaложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Устаноўчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускае зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказнай нашай працы.

Спаўняючы Камітэт Рады 1-га
Усебеларускага Зьезду.
Выдана ў Менску-Беларускім
9 сакавіка 1918 року.
БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА.

Народны Сэкратарыят
22 сакавіка 1918 г.,
Места Менск, № 43.

## ТРЭЙЦЯЯ ЎСТАЎНАЯ ГРАМАТА

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расійскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь, ні пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край. **Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавою.** Самі народы Беларусі, у асобі свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў адносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну Берэсьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка повінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часьці суседніх губэрнияў, заселеныя беларусамі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пацьверджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўнай граматай ад 9 сакавіка 1918 г.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Рада яе. пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсьніць яго палітычна дзяржаўныя ідэалы.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі
Дана ў Менску-Беларускім
25 сакавіка 1918 г.

*Паводле збору дакумэнтаў "За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі". Лёндан, 1960.*

# Бедная Расея, няшчасныя расіяне...

Заканчэньне са стар. 7

гэтага слова, дробная прыватная ўласнасьць, хай нават і падкантрольная ўладам.

Гэтую ўласнасьць ня толькі не паважалі, яе ненавідзелі. Дробны ўласьнік зь сялянаў, кулак – гэта міраед, той, хто супрацьстаўляе сябе міру – абшчыне, прывычнай сялянскай абшчыне зь яе рэгулярным пераразьмеркаваньнем зямлі. Кулак-міраед зьненавіджаны сваімі аднавяскоўцамі менавіта за тое, што ён не такі, як усе. Нібы з сваіх, а ня хоча быць аднолькавы з усімі. Комплекс сэрвілізму праяўляецца ў непавазе да той уласнасьці, якая ня ўладамі дадзеная, а гарбом зробленая.

Дакладна такой была непавага да ўласнасьці й багацьця зь першых дзён савецкай улады. Хіба што гэтая непавага і нават нянавісьць распаўсюдзіліся, у новых умовах краху старой улады і былых сыстэмаў вартасьці, таксама і на ўласнасьць усіх учора ўладу маючых. Лёзунгі бальшавікоў-ленінцаў трапілі на добра ўгноеную глебу.

Пасьля была калектывізацыя.

## Чаму ўсе крадуць?

Дзесяцігодзьдзі савецкай улады, што ішлі ўсьлед за калектывізацыяй, замацавалі гэтую непавагу да ўласнасьці й багацьця тых, хто ня меў легітымнага ў вачох нашага люду права быць багатым.

Прыніжаны народ, зь яго комплексам сэрвільнасьці, такога роду права прызнаваў толькі за тымі, хто меў уладу і прывілеі, іншая рэч – "ценевікі", што спрабавалі нажыцца з хібаў сацыялізму. Зь імі размова кароткая: гэта нечысьць, якая перашкаджае нам жыць. Уладары зь іхнымі прывілеямі жыць дапамагалі. Гандлёвая нечысьць перашкаджала. Такім быў прыняты і да гэтага часу шмат кім падзяляецца стэрэатып.

У нашай краіне крадуць часта, многа і шмат хто. Крадуць буйна і дробязна, прымітыўна і нават віртуозна. Красьці пачалі ня ўчора, гэта быў біч краіны нашай і ў мінуўшчыне. Але так, як гэта робіцца сёньня, ніколі і нідзе яшчэ не было.

Калі ж запытацца, чаму нашыя маральна-праўныя нормы сталіся слабым лекам, дык зноў вернемся да таго, з чаго пачыналі: вінюю ўсяму сэрвільнасьць зь яе прыроджанай і мала чым абмежаванаю пагардаю да ўласнасьці, да чалавека, да нормаў маралі наагул. Я ўжо не кажу пра агрэсіўнасьць, часам нематываваную, нічым не вытлумачальную.

## Вялікая зона

Дык што ж рабіць? Сьмешна скардзіцца на тое, што ў краіне крадуць, што ці мала дзяўчат сёньня лёгка прадаюцца ды імкнуцца прадаць сябе даражэй. Наіўна гараваць з-за непавагі да чалавека, роскіту грабежнікаў і махляроў, у тым ліку і рэспэктабэльных вымагальнікаў. Прадажнасьць і злачыннасьць натуральныя там, дзе страчаны асновы. Нашыя асновы былі лёгка падарваныя менавіта таму, што яны былі слабымі.

З шматлікіх злучаных паміж сабою прычынаў і фактараў наша краіна апынулася нібы па-за агульначалавечаю нормай. Тое, што яна зь сябе сёньня ўяўляе, бліжэй да нормаў злачыннага сьвету або турмы. Зазначу, што яшчэ ў часы бадзяньня Салжаніцына па Гулагу разумныя ды назіральныя людзі, якія сядзелі ў лягерох, слушна лічылі грамадзтва за межамі зоны пэўнага роду Вялікаю Зонаю, шмат у чым падобнаю да лягернае. Вынікае – наша галоўная задача сёньня – перастаць быць Вялікаю Зонаю. Зьвярнуцца да агульначалавечых, маральна-духоўных нормаў. Стаць нармальнымі людзьмі.

# Плаўленыя сыркі за адзінаццаць капеек і .... аборы да лапцяў

Мы яшчэ памятаем палымяныя словы "самага чалавечнага чалавека", што такое камунізм. Ёсьць у нас і савецкая ўлада, і электрыфікацыя поўная. З гэтага вынікае, што мы жывем пры камунізьме. Ці можа ён у нас ужо быў, гэты самы камунізм? Паводле словаў аднаго камсамольска-трохкампартыйнага дзеяча, былі ж у нашых крамах плаўленыя сыркі за адзінаццаць капеек, цяпер – няма. Можа яны, сыркі, зьніклі ад абразы, што самі камуністы забаранілі дзейнасьць КПСС–КПБ на Беларусі? Го, плаўленыя сыркі за адзінаццаць капеек, вяртайцеся, КПБ на Беларусі зьявілася!

На каго ж разьлічана гэтая "сырковая" прапаганда?

Пра "полную электрификацыю" памятаеце? Здаецца, тут "вялікі правадыр" меў на ўвазе "полную дебилизацию". І тады ўсё становіцца на месца. Зноў на Беларусі ва ўсю моц загрукаталі камуністычныя барабаны, зноў уздымаюцца крывавыя сьцягі і вядзецца прапаганда нянавісьці да дэмакратыі і свабоды, да нармальнага, чалавечага жыцьця. Ці ж былі ў нас дэмакратыя і свабода? Тыя кволыя парасткі, што ледзь-ледзь прабіліся, хочуць стаптаць бальшавікі-ленінцы. Уся ўлада ў іхных руках была і ёсьць: амаль 85% Вярхоўнага Савету і 100% Савету Міністраў – намэнклятурныя дзеячы КПБ–КПСС. І менавіта яны павінны адказаць за нашае жахлівае жыцьцё. Трэба заўважыць, што ўсё гэта рабілася і робіцца ад нашага імя, з нашае маўклівае згоды. Наш Вярхоўны Савет пасьля забароны рэфэрэндуму, вядома ж, ад нашага імя, вырашыў на апошняй сэсіі самае важнае пытаньне: рэанімаваў КПБ. Важней за рэанімацыю мерцьвякоў і пытаньняў няма, вось так. Няхай лепш здань камунізму блукае на Беларусі. Але ж мёртвае ня можа стаць жывым. Ад мерцьвяка йдзе толькі смурод і трупная атрута. Вось гэтая атрута і ёсьць самая небясьпечная для ўсяго жывога. Мала нашым ленінцам дзясяткаў і дзясяткаў мільёнаў забітых, закатаваных і зьнявечаных у сталінскіх лягерох, мала Чарнобылю, атручанага паветра й вады, вынішчаных лясоў і зьнявечаных бальшавіцкаю прапагандаю чалавечых душаў. А Беларусь для іх вельмі добры палігон для выпрабаваньня сваіх вар'яцкіх ідэяў, бо мы ўжо добра зьнявечаныя гістарычным бяспамяцтвам. Таму і вядзецца ваяўнічая ды нахабная прапаганда супраць нашае дзяржаўнасьці, незалежнасьці, нашае роднае мовы, сьцяга і сымбаляў, лютая нянавісьць да ўсяго беларускага, акрамя сала ды каўбасы.

Нахабна сьцьвярджаюць, што ня было ў нас свае гісторыі, ня было дзяржавы і наагул ня было аніякіх беларусаў. Выступаюць адзіным фронтам і камуністы, і СС (Славянский собор), і расейскія шавіністы, і "Эрыданы", і расейскія акадэмікі-"беларусы". Да іх можна далучыць і дэпутацкую групу са зьдзеклівай назваю "Беларусь" у Вярхоўным Савеце. І ўсе яны зь вялікай надзеяй глядзяць на Ўсход. А ці не ўздымаецца адтуль, з Усходу, сонейка расейскага нацыянал-камунізму? Гэткі монстар з камуністаў, манархістаў і шавіністаў. Але тое сонейка будзе вельмі крывавым для ўсіх, для ўсяго жывога. Маю надзею, што гэта не адбудзецца.

Дзьвесьце гадоў таму нас, беларусаў, абулі ў расейскія лапці. Так і ходзім. І пазбыцца ня можам, бо трымаюць аборы. Акрамя вышэй згаданых "абораў", ёсьць і іншыя. Іншыя – гэта тыя зьнявечаныя душой беларусы, якія не ўяўляюць сабе іншага жыцьця, як пад апекай "старэйшага брата", ды яшчэ з бальшавіцкім аблічча́м.

Менавіта іх, а праз іх і ўсіх нас, "славянская" прапаганда залічыла ў "русскоязычные", "русскоязычное население". Амаль штодня ў расейскіх сродках масавай інфармацыі і паведамляецца пра парушэньні правоў чалавека ў дачыненьні да "русскоязычных" у краінах Балтыі, Закаўказьзя, Сярэдняй Азіі, Малдове. Заўважце, не канкрэтна расейцаў, беларусаў, украінцаў ці іншых, а "русскоязычных". Гэта ўжо нешта арыгінальнае.

Асабіста мяне вельмі трывожыць інфармацыя, у якой гаворыцца, што таджыкі са свае Радзімы, прарываючыся праз "неприступные рубежи", уцякаюць у Аўганістан, туды, дзе ідзе вайна.

"Забитость" беларусаў – гэта ўжо ў мінулым. Мы яшчэ былі і "тутэйшыя", а цяпер – ад захапленьня сьлёзы з вачэй раўчуком – "талерантныя". Радуйцеся, беларусы! Абулі ў расейскія лапці – трывайце, надзелі бальшавіцкі хамут – трывайце і радуйцеся, бо бязь іх прападзеце. І палохаюць жахамі, якія на нас зваляцца, калі станем сваім розумам жыць. Памятаеце, як адзін двойчы герой фашызмам нас палохаў? Бедны, сам так запудзіўся, што ад страху ў Маскву зьбег на "кілбасную" пасаду. Так вось народны выбраньнік народ свой "абараняе".

Пра свабоду сродкаў інфармацыі на Беларусі і гаварыць няма чаго. Амаль што ўсе яны – урадавыя. Савет Міністраў стаў манапалістам і вырашае (за нашыя грошы), што нам можна чытаць, глядзець, слухаць. Кебіч: – "Наш дарагой Пётр Міронавіч", і тут жа загад: "Усім надрукаваць і зачытаць!" А не, дык мы вас....! Але ж "Народная газэта" не спалохалася. Таму і зьявіцца новы "наш дорогой..."!

Нам трэба жыць сваім розумам. Мы такі ж народ, як і ўсе іншыя. Маем і талент, і працавітасьць, і мудрасьць. Можам мы жыць ня горш за тых жа немцаў, амэрыканцаў, французаў, можам. Усё залежыць толькі ад нас саміх.

Міхась Каляда

# Хто какім языком хаціт...

ПРОТОКОЛ

конференции трудового коллектива швейной фабрики "Комсомолка" от 3.03.93.

СЛУШАЛИ: О выборах делегатов на городскую конференцию ТБМ имени Скорины.

ПОСТАНОВИЛИ: Выбрать на конференцию следующих работников:

1. Герасименок Олимпиада Ивановна -воспитатель д/с 10
2. Амельянович Людмила Степановна -воспитатель д/с 29
3. Сенько Янина Ивановна - депутат горсовета

Председатель [signature] В.А.Тавгень

ПРОТОКОЛ №7

конференции трудового коллектива ПТК"Аксамит" от 3.03.1993г.

СЛУШАЛИ: О выборах делегатов на городскую конференцию ТБМ имя Скарыны.

ПОСТАНОВИЛИ: Избрать делегатами от ПТК "Аксамит" на городскую конференцию ТБМ имя Скарыны следующих работников:

Брисик Раису Алексеевну
Гончар Виктора Иосифовича
Ельнивич Галину Анатольевну

Председатель конференции [signature] А.Н.Стасилевич

Секретарь конференции [signature] Е.К.Козловская



Малюнак Кастуся Кіпеня

НАВІНЫ Беларускага Народнага Фронту "АДРАДЖЭНЬНЕ"
Заснавальнік Зянон Пазьняк

Індэкс 63895
Ліцэнзія №67

Адрас рэдакцыі: г.Менск, Рабкораўскі зав., 14. "Навіны БНФ"

У нумары скарыстаная выява Пагоні з тытульнага аркуша Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.

Падпісана да друку 16 сакавіка 1993 г.
Наклад 10 000 ас.
Надрукавана ў Магілеўскай абласной друкарні

Галоўны рэдактар Зьдзіслаў Сіцько